# НАША СВАБОДА

№15(102) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

7 ЛЮТАГА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## НТВ сыходзіць з Беларусі?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Тэлекампанія НТВ можа перапыніць сваё вяшчанне на Беларусь. Пра гэта паведаміў нам Антон Маціевіч, дырэктар па рэкламе і развіцці ААА «Медиа сервис АРТ» – дачэрняй кампаніі НТВ, якая займаецца размяшчэннем рэкламы ў Беларусі на гэтым канале.

З 3 лютага Беларускае тэлебачанне перакрывае НТВшныя рэкламныя блокі сваімі, і гэта дае падставы для НТВ звярнуцца ў суд.

У якасці аднаго з захадаў па барацьбе з «піратамі» з БТ цяпер разглядаецца поўная адмена вяшчання НТВ на Беларусь, заявіў Антон Маціевіч. ■

*Больш падрабязна пра канфлікт НТВ і БТ чытайце на стар. 2*

## Лукамольцам даруюць грахі

Ян МІКАЛАЕЎ

Лукамольцы – а менавіта так называюць членаў БПСМ – не прыносяць дзяржаве аніякай карысьці. Наадварот: мала таго, што на патрэбы гэтае, нібыта грамадзкае, арганізацыі выдаткоўваецца штогод зь дзяржбюджэту мільярды рублёў, дык лукамольцы паціху раскрадаюць грошы. Менавіта пра гэта сьведчаць вынікі нядаўняй праверкі, праведзенай Кантрольна-рэвізійным упраўленьнем міністрэства фінансаў. У распарадзе журналіста Рацыі аказаліся некаторыя з гэтых дакумэнтаў. У прыватнасьці, рэвізоры мінфіну выявілі, што летась БПСМ і ягоныя рэгіянальныя структуры патрацілі 5 млн. 909 тысяч дэмінаваных рублёў. Прычым, амаль палова гэтых грошай пайшла на незаконныя выплаты піянэрам-лукамольцам прэміяў ды іншых матэрыяльных заахвочваньняў.

Надзвычай любяць лукамольцы езьдзіць у замежныя вандроўкі. Як выявілі рэвізоры, толькі за мінулы год на камандыроўкі было патрачана больш за 330 тысяч беларускіх рублёў, амаль 32 тысячы расейскіх рублёў і 250 даляраў. Прычым, за грошы падаткаплацельшчыкаў разьяжджалі й тыя, хто нават не ўваходзіць у шэрагі БПСМ.

Зрэшты, у дадзеным выпадку рэвізоры хаця б даведаліся, хто патраціў незаконныя грошы. А вось каму дасталіся больш за 100 гадзіньнікаў, якія БПСМаўцы бралі з сабою ў якасьці падарункаў, рэвізорам так і не адкрылася. І ёсьць усе падставы падазраваць, што далёка ня ўсе гадзіньнікі былі раздораныя замежным таварышам. Бо ўжо былі выпадкі, калі лукамольцаў лавілі на тым, што падарункі сьпісвалі на падстаўных асобаў – а гэта значыць проста раскрадалі.

Такім чынам, бачна, што кідаць грошы на вецер, а дакладней, у сваю кішэню лукамольцы навучыліся даволі спрытна. Адметна таксама, што ім усё сыходзіць з рук, бо праваахоўчыя органы баяцца чапаць тых, кім апякуецца сам Аляксандар Рыгоравіч.

Таму рэвізоры мінфіну толькі паўшчувалі БПСМаўцаў за не зусім правільную растрату дзяржаўных грошай. А іншых – зазначым – за такія парушэньні даўно пасадзілі б у турму, дзе, дарэчы, і самае месца казнакрадам. ■

Радыё Рацыя

# «Воля – пачуццё дабрыні»




Фота Ул.ШЛАПАКА

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**5 лютага выйшаў на волю дэпутат Уладзімір Кудзінаў. За кратамі ён правёў 4 гады і адзін дзень. Сваімі першымі пачуццямі і думкамі на волі Кудзінаў падзяліўся з роднымі і журналістамі, толькі зрабіўшы некалькі крокаў па зямлі за тэрыторыяй «зоны».**

— Найперш дзякуй вялікі маім родным, блізкім, сябрам, усёй грамадскасці Беларусі ды міжнародным арганізацыям — за тое, што не кінулі мяне, увесь час цягам гэтых чатырох гадоў мяне падтрымлівалі. І я лічу, што мой доўг зараз — прыносіць карысць і радасць маім блізкім, сям'і, грамадству. Думаю, што на прэзідэнцкіх выбарах мы дапаможам Аляксандру Рыгоравічу спусціцца з нябёсаў на зямлю.

***— Як вы ацэньваеце цяперашнюю палітычную сітуацыю ў краіне?***

— Лічу, што яна вельмі складаная. Улады хочуць прымусіць беларускі народ, які яны называюць апазіцыяй, працаваць на прававым полі. Самі ж улады твораць няпраўе.

***— А чаму вас так доўга трымалі сёння? Мы вас чакалі ад самага ранку.***

— Толькі сёння прыйшла пастанова суда пра змену майго тэрміну пакарання. А далей адміністрацыя, каб пазбегнуць грамадскага рэзанансу, марудзіла з працэдурамі.

***— Як вы ацэньваеце ўмовы ўтрымання ў мінскай калоніі?***

— Канечне, гэта месца, дзе адбываюць пакаранне, а не адпачываюць ад цяжкай працы. У гэтым сэнсе адміністрацыя робіць сваю справу. Але не ўсе дзеянні адміністрацыі можна вітаць. Напрыклад, я вам пэўна скажу, што ў калоніі УЖ 15/1 ёсць карцэры, дзе фактычна катуюць вязняў. Бо тэмпература там не больш за 5–7 градусаў, проста ідзе ломка свядомасці. Таксама праблема ў тым, што адміністрацыя не даводзіць вязням іхных правоў. Безумоўна, грамадскасці трэба больш увагі надаваць умовам утрымання вязняў у месцах пазбаўлення волі, бо пракуратура тут не на баку закона, а на баку турэмшчыкаў.

***— Вы — дэпутат Вярхоўнага савета. Як думаеце працягваць свае дэпутацкія паўнамоцтвы?***

— Так, я быў і застаюся дэпутатам Вярхоўнага савета 13 склікання, які прызнала міжнародная супольнасць. Гэта мой асноўны абавязак. Я хачу, каб як мага хутчэй у нас было створана дэмакратычнае і свабоднае грамадства.

***— Лічыцца, што ўсе вашыя праблемы пачаліся, калі вы адмовіліся зняць свой подпіс з патрабавання імпічменту Лукашэнку. Ці не шкадуеце, што гэтак зрабілі?***

— Не. Я не шкадую, гэта быў мой грамадзянскі абавязак. Я б сёння быў у нашмат горшым стане — перад грамадствам, перад сям'ёй, калі б здрадзіў тым людзям, з якімі тады ішоў, калі б забраў сваю заяву. Пасля рэферэндуму, які, я лічу, беларускі народ прайграў, бо даў вялізныя паўнамоцтвы ўладам, я разумеў, што мяне арыштуюць. Не ведаў толькі, дзе і як гэта адбудзецца. Але калі ўжо здарылася так — чаго шкадаваць. За савецкім часам палітыкаў вучылі ў партшколах, цяперашні рэжым вучыць нас у турмах. За гады турмы я набыў шмат новых ведаў пра жыццё і загартаваўся маральна.

***— Як вашае здароўе?***

— Збольшага не скарджуся, магчыма толькі трэба падлячыць страўнік. Ёсць падазрэнні, што пачынаецца язвенная хвароба. Калі мяне затрымалі ў 1997 годзе, я важыў 104 кілаграмы, цяпер важу 76. З пачатку года крыху паправіўся.

***— Дык вы збіраецеся надалей займацца палітыкай?***

— Лічу, калі чалавек не займаецца палітыкай, яна сама прыйдзе ў ягоны дом. Калі мы хочам дасягнуць дабрабыту сваіх сем'яў, перш за ўсё трэба паклапаціцца пра парадкі ў сваёй краіне.

***— Вы былі вядомым і даволі ўдалым прадпрымальнікам. Будзеце працягваць гэтую дзейнасць?***

— Пакуль не. Мяркую, што ў сённяшніх умовах — гэта толькі падтрымліваць падаткамі існуючы рэжым. Грошы, што плацяць прадпрымальнікі, большай часткай ідуць на забавы Лукашэнкі ды ягоных чыноўнікаў. Калі я буду і далей умацоўваць сваімі падаткамі гэты рэжым, ён праіснуе яшчэ шмат гадоў. Дык навошта? Спачатку трэба перамагчы гэты рэжым, а ўжо потым багацець. Я хачу працаваць на карысць грамадства, але не на карысць правячай вярхушкі, якая незаконна ўтрымліваецца пры ўладзе.

***— Якія вашыя першыя адчуванні на волі?***

— Самае неверагоднае на волі, гэта вашая падтрымка, вашае цяпло, усмешкі і дабрыня людзей, якія цяпер вакол мяне. Я адчуваю гэтую цеплыню і, безумоўна, шчаслівы.

***— Ці праўда, што адміністрацыя калоніі прымушала вас напісаць заяву аб пераглядзе справы?***

— Так, хаця яны павінны былі гэта зрабіць самі яшчэ напрыканцы года. Калі б не мая адмова ды ўвага да гэтай тэмы незалежнага друку, я не выключаю, што яшчэ паўгода сядзеў бы цалкам незаконна. Дарэчы, гэта не толькі мая праблема. Справа ў тым, што ў нас да трацiны прысудаў вынесена беспадстаўна, без патрэбных доказаў, і ўсё робіцца так, каб чалавек сам папрасіў аб пераглядзе і тым самым прызнаў сваю віну. Не будзеш прасіць, будзеш сядзець далей.

***— Якое вашае першае жаданне на волі?***

— Першае жаданне? Прынесці шчасце маім родным, якія мяне столькі чакалі. Трэба зрабіць так, каб гэтыя пакуты не былі дарэмныя для ўсіх нас, каб гэты цяжкі перыяд меў плён. ■

## НАВІНЫ

■ **Арыштаванаму нядаўна намесніку выканаўчага дырэктара Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Леаніду Альхімовічу прад'яўленыя абвінавачванні.** Яму інкрымінуюць ухіленне ад сплаты падаткаў. Раней Альхімовіча падазравалі ў ілжэпрадпрымальніцтве і легалізацыі матэрыяльных каштоўнасцяў. Пры арышце падчас вобшуку ў Альхімовіча знайшлі банкаўскія дакументы на валоданне амаль 2 мільёнамі французскіх франкаў, на што ён адпавёў, што гэта падарунак брата.

■ **Мінская міліцыя выявіла групу асобаў, якія падазраюцца ў крадзяжах праз камп'ютэрныя тэхналогіі.** Гэта больш за 2 дзесяткі хакераў, у дачыненні да якіх за апошнія паўтара тыдня было ўзбуджана каля сарака крымінальных справаў. Яны рабавалі замежныя фірмы, што ажыццяўляюць продаж тавараў праз інтэрнэт-магазіны. Паводле новага Крымінальнага кодэкса, за кампутарныя злачынствы прадугледжанае пакаранне ад 6 да 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

■ **Індывідуальныя прадпрымальнікі Салігорска з 1 лютага праводзяць бестэрміновы страйк.** Яны кажуць, што наважаныя страйкаваць датуль, пакуль улады не выканаюць усе іхнія патрабаванні. Гэта адмена пастановы Дзяржаўнага мытнага камітэта аб мытным афармленні тавараў трэціх краінаў, завезеных з Расіі, змяншэнне кошту на арэнду гандлёвых кропак (за 2000 год яна падаражэла ў 5 разоў) і іншае.

■ **Паводле інфармацыі Беларускай дзяржаўнай службы судова-медыцынскай экспертызы, сёлета ў Беларусі ад пераахалоджання ўжо памерла два дзесяткі чалавек.** У 2000 годзе ахвярамі холаду стала 412 чалавек, прычым большая палова з іх знаходзілася ў п'яным стане. Звычайна гэтак сканчаецца жыццё бамжоў, якіх знаходзяць у цеплаэлектрасетках, куды яны прыходзяць пераначаваць і сагрэцца.

■ **Пачаўся працэс прыёму заявак на ўдзел у міжнародным фестывалі духоўнай музыкі «Магутны Божа».** Запрашаюцца прафесійныя, аматарскія, дзіцячыя і маладзёжныя калектывы, інструментальныя і вакальныя ансамблі, хоры і асобныя выканаўцы незалежна ад веравызнання. Тэрмін падачы заявак – да 30 красавіка. Фестываль – гэтым разам ужо дзевяты па ліку – традыцыйна пройдзе ў Магілёве з 11 па 16 ліпеня.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Курс наяўнага долара на «чорным рынку» **1230**

## У БТ угналі аўтамобіль

**Иван КОРОВЕЙКА**

В ночь с 1 на 2 февраля был похищен служебный автомобиль съемочной группы хроники криминальных и чрезвычайных происшествий «Зона Х».

Автомобиль марки «Форд» вишневого цвета был похищен у дома, в котором проживает водитель съемочной группы «Зоны Х». Ни угонщик, ни автомобиль до сих не найдены. Между тем, автомобиль заметный: на нем огромными буквами написаны название телепередачи и телефон редакции. ■

## Лукашэнка можа адмовіцца ад выбараў

**Кірэй МАНУЙЛА**

Свабодны прафсаюз Беларускі зрабіў заяву «ў сувязі з маючымі адбыцца прэзідэнцкімі выбарамі». У ёй выказваецца непакой, што Аляксандр Лукашэнка можа пайсці на тое, каб чарговы раз працягнуць тэрмін сваіх паўнамоцтваў праз нейкія нібыта канстытуцыйныя рашэнні.

Згадваюцца заявы Лукашэнкі пра падрыхтоўку адправіць у Беларусь пад выглядам незалежных назіральнікаў за выбарамі звыш 14 тысячаў баевікоў, а таксама пра словы старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, што ў выбарчыя камісіі не будуць дапушчаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў. У СПБ робяць выснову: «істэрычная рэакцыя існуючай улады зразумелая – пры праведзенні сумленных і адкрытых выбараў шанцы застацца кіраваць краінай малаверагодныя». Таму «прадпрымаюцца спробы з боку людзей, што знаходзяцца ва ўладзе, паклёпнічаць на іншых кандыдатаў, скрасці вынікі выбараў. Грамадству ўнушаецца думка, што дзейнічаючаму прэзідэнту, якога не прымаюць у прыстойных колах, няма альтэрнатывы ў дзесяцімільённай Беларусі». ■

## Працоўным Магілёўшчыны вінныя мільярд

**Канстанцін УВАРАЎ**

Аднаго мільярда рублёў дасягнула агульная сума запазычанасці па зарплаце на прадпрыемствах і ў арганізацыях Магілёўскай вобласці. Пра гэта гаварылася 5 лютага на апошняй нарадзе ў Магілёўскім аблвыканкаме. Зазначалася, што каля 70% усёй сумы доўгу прыпадае на гаспадаркі аграпрамысловага комплексу; удзельная вага запазычанасці ў месячным аб'ёме зарплаты вобласці склала 3,9%.

Для выпраўлення сітуацыі кіраўніцтва аблвыканкама запатрабавала ад кіраўнікоў суб'ектаў народнай гаспадаркі вобласці да 20 лютага выплаціць работнікам зарплату за снежань, да 25 лютага – разлічыцца за працу ў студзені. ■

БелаПАН

## Беларускае кіно ў свеце не ведаюць

**Павел МАЖЭЙКА**

«Беларускае кіно ў Еўропе не ведаюць, бо ўсё, што ствараецца беларускімі рэжысёрамі, даходзіць да нас у расійскім дубляжы», – адзначыў на прэс-канферэнцыі ў Гродне вядомы польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі.

У гэты дзень спадар Занусі прэзентаваў жыхарам Гродна сваю новую карціну «Жыццё як смяротная хвароба, што перадаецца палавым шляхам», якая атрымала гран-пры 22-га Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю. Кшыштаф Занусі выступіў перад гледачамі з пяціхвілінный прамовай. З Гродна славуты рэжысёр скіраваўся ў Парыж. ■

## Барысаўскіх апазіцыянераў не змаглі дапытаць

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

5 лютага актывістка апазіцыі з Барысава Алеся Ясюк, інжынер аднаго з аўтапаркаў горада, была дастаўленая ў мясцовую пракуратуру проста з месца працы. Туды ж быў выкліканы і кіраўнік мясцовай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Аляксандр Абрамовіч.

У рамках узбуджанай крымінальнай справы (артыкул 368, частка 1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – знявага прэзідэнта) іх меў намер дапытаць следчы пракуратуры Сяргей Пашкевіч.

Нагадаем, што справа ўзбуджаная па факце правядзення 16 студзеня ў Барысаве несанкцыянаванага пікета. На гэтай акцыі пяцёра яе ўдзельнікаў трымалі ў руках плакаты «Патрабуем псіхіятрычнага абследавання Лукашэнкі!» і «Бывайце здаровы, Аляксандр Рыгоравіч!», раздавалі прахожым улёткі з выпiскамі з урачэбнага заключэння псіхіятра Дзмітрыя Шчыгельскага.

У пракуратуры Ясюк і Абрамовіч адмовіліся адказваць на пытанні следчага, растлумачыўшы сваю пазіцыю тым, што яны з ліпеня 1999 года праводзяць акцыю грамадзянскага непадпарадкавання патрабаванням нелегітымных уладаў, а таксама ў сувязі з нізкай кваліфікацыяй супрацоўнікаў пракуратуры. Тады следчы ў прысутнасці двух панятых склаў пратакол аб адмове Ясюк і Абрамовіча адказваць на пытанні і выпісаў ім позвы на 7 лютага. Барысаўскія апазіцыянеры дэманстратыўна разарвалі і выкінулі позвы ў пракуратуру. Тым не менш, следчы даў зразумець, што іх даставяць на допыт прымусова. ■

БелаПАН

## Змены ў правілах дэклараавання даходаў

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

12 лютага ўступіць у сілу дэкрэт, які ўносіць змяненні ў парадак дэкларавання даходаў і маёмасці фізічнымі асобамі на тэрыторыі Беларусі.

Дакумент прадугледжвае, у прыватнасці, павелічэнне парогавых значэнняў кошту маёмасці і памеру зздзелак, якія падлягаюць дэкляраванню. Цяпер падлягаюць дэкляраванню «творы мастацтва, каштоўныя металы і каштоўныя камяні, вырабы з іх», калі кошт прадмета перавышае 1.000 мінімальных зарплатаў (раней – 200); будаўнічыя матэрыялы, за выключэннем прызначаных для будаўніцтва і рэканструкцыі *жылых памяшканняў, агульны кошт якіх перавышае 2.000 МЗП* (раней – 500). Як і раней, неабходна дэкляраваць жылыя дамы з надворнымі пабудовамі, гаражы, іншыя пабудовы і аб'екты незавершанага будаўніцтва, кватэры і іх часткі (долі), зямельныя ўчасткі, транспартныя сродкі (акрамя мапедаў, веласіпедаў і гужавога транспарту), якія знаходзяцца ва ўласнасці фізічных асобаў. «Іншая маёмасць» падлягае дэкляраванню толькі ў тым выпадку, калі кошт яе адзінкі перавышае 2.000 МЗП (раней – 500).

*Фізічныя асобы павінны прадставіць* дэкларацыю аб крыніцах грашовых сродкаў пры ажыццяўленні здзелак на суму, якая перавышае 2.000 МЗП. Акрамя таго, уводзіцца адказнасць (штраф у памеры ад 5 да 50 МЗП) за непрадстаўленне дэкларацыі пры ажыццяўленні падобных здзелак або ўказанне ў ёй няпоўных або недакладных звестак. ■

БелаПАН

**ФОТАФАКТ**



Фота REY/ProMedia

● Раённы горад Клімавічы. Цэнтр. Сцюдзёны дзень

## НТВ лічыць, што БТ крадзе «рэкламны час»

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Расійская тэлекампанія НТВ мае намер выставіць міністэрству сувязі Беларусі рахунак за «крадзеж рэкламнага часу Беларускім тэлебачаннем, які распачаўся з 3 лютага 2001 года». Пра гэта паведаміў БелаПАН Святаслаў Тапеха, генеральны дырэктар ТАА «Медыя Сэрвіс Арт» – структурнага падраздзялення холдынга «Медыя-Мост», які з'яўляецца рэкламным агентам НТВ на тэрыторыі Беларусі.

Паводле інфармацыі Тапехі, 2 лютага ў адміністрацыі прэзідэнта Беларусі адбылася нарада, на якой, «з падачы першага намесніка старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Ягора Рыбакова», было прынятае рашэнне аб перакрыцці рэкламнага блоку НТВ Беларускім тэлебачаннем. Гэта адбылося нягледзячы на афіцыйнае папярэджанне, якое 25 студзеня накіраваў генеральны дырэктар НТВ Яўген Кісялёў у адрас кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі.

«Згодна са шматбаковым дагаворам паміж НТВ, міністэрствам сувязі Беларусі і яго падраздзяленнямі, рэкламным часам распараджалася ТАА «Медыя Сэрвіс Арт». Значны працэнт валютных сродкаў, атрыманых НТВ ад рэкламы, адлічваўся мінсувязі. Рыбакоў жа прадставіў справу так, што НТВ – гэта прыватная крамка, якая не дае працаваць, і сродкі ад рэкламы дапамогуць умацаваць фінансавае становішча БТ. Апошнія паўгода Беларускаму тэлебачанню неаднаразова прапаноўвалася аб'яднаць намаганні ў галіне размяшчэння тэлевізійнай рэкламы на расійскіх тэлеканалах на ўзаемавыгаднай аснове, але нашы запыты засталіся без адказу. Відавочна, што кіраўніцтва БТ мае нейкія іншыя інтарэсы», – сказаў генеральны дырэктар ТАА «Медыя Сэрвіс Арт» і заявіў, што кіраўніцтва БТ дэзінфармуе вышэйшае кіраўніцтва краіны ў асобе прэзідэнта Лукашэнкі і яго адміністрацыі.

4 лютага ў аўтарскай праграме «Итоги» Яўген Кісялёў звярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі з патрабаваннем растлумачыць сітуацыю: «Беларускае тэлебачанне зусім парацку, па-рабаўніцку вырубае з праграмаў НТВ нашу рэкламу і ўстаўляе сваю ўласную, што не мае ніякага дачынення да НТВ. Ідзе рэклама, за якую БТ атрымлівае грошы, крадучы ў нас эфірны час... У нашай практыцы былі выпадкі крадзяжу – на прыватных станцыях у расійскай глыбінцы, але каб так, абсалютна бессаромна, загадзя папярэдзіўшы нас аб гэтым, вызразна падымаючы вочы дагары ў адказ на пытанне, як можна парушаць закон. У мяне пытанне да спадара Лукашэнкі: як ён растлумачыць, што яго падначаленыя, намякаючы на тое, што маюць яго, прэзідэнта Беларусі, санкцыю, крадуць у нас рэкламны час і прычыняюць шматтысячныя страты?»

Паводле словаў Святаслава Тапехі, рэакцыі беларускіх уладаў на заяву Кісялёва пакуль не было. «Зараз у Мінску займаюцца прыцягненнем рэкламадаўцаў да «праекта» БТ, у тым ліку і тых, хто раней рэкламаваўся на НТВ з дапамогай ТАА «Медыя Сэрвіс Арт», – сказаў ён.

Фінансавыя прэтэнзіі НТВ да міністэрства сувязі Беларусі будуць выстаўляцца з разліку 6.000 расійскіх рублёў у хвіліну (210 долараў ЗША) па пераліку па афіцыйным курсе расійскага Цэнтрабанка). «У дзень у нас крадуць 110-120 хвілінаў рэкламнага часу, а гэта 25 тысяч долараў», – адзначыў Тапеха.

У мінскім карпункце НТВ карэспандэнту БелаПАН сітуацыю пракаментавалі так: «Наўрад ці гэта спроба прымусіць НТВ пакінуць беларускі інфармацыйны рынак напярэдадні выбараў. Хутчэй за ўсё, недзе палічылі, што рэклама на НТВ – гэта добрая кармушка, і вырашылі падмяць яе пад сябе».

Спроба карэспандэнта БелаПАН звязацца з першым намеснікам старшыні НДТРК Ягорам Рыбаковым не мела поспеху. Спачатку сакратар адказала, што Рыбакоў знаходзіцца ў адміністрацыі прэзідэнта, а пасля яго вяртання заявіла, што ўся інфармацыя будзе «ў прэсе». У сваю чаргу, генеральны дырэктар рэкламна-камерцыйнай дырэкцыі БТ Аляксандр Ганушадмовіўся каментаваць сітуацыю вакол рэкламы на НТВ, спаслаўшыся на адсутнасць паўнамоцтваў. ■

БелаПАН

## Лукашэнку трэба абследаваць

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

4 лютага Палітсавет АГП звярнуўся да міністра аховы здароўя Ігара Зелянкевіча з патрабаваннем стварыць камісію для медыцынскага абследавання Аляксандра Лукашэнкі. У артыкуле «Врачебное заключение», надрукаваным у НАШАЙ СВАБОДЗЕ 12 студзеня, пастаўлены дыягназ А.Лукашэнку, што «выклікала законную заклапочанасць шырокіх слаёў насельніцтва». «Любыя падазрэнні адносна псіхічнага здароўя кіраўніка дзяржавы абсалютна недапушчальныя. Каб зняць ці пацвердзіць гэтыя падазрэнні, мы заклікаем стварыць камісію са спецыялістаў (у тым ліку незалежных, замежных), якая магла б абследаваць А.Лукашэнку, і паінфармаваць беларускае грамадства і сусветную супольнасць пра стан здароўя кіраўніка дзяржавы», – гаворыцца ў звароце да міністра.

*Старшыня АГП паведаміў, што* партыя «мае дакладную інфармацыю» пра тое, што А.Лукашэнка збіраецца балатавацца кандыдатам у прэзідэнты. «Мы павінны звяртацца не толькі да мінулага, але і глядзець у будучыню», – заявіў кіраўнік партыі. ■

## Зварот да сусветнай супольнасці

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**



Святлана Завадская, жонка Зміцера Завадскага, аператара Грамадскага расійскага тэлебачання, які знік у мінскім аэрапорце «Мінск-2» 7 ліпеня мінулага года, напісала адкрыты зварот да сусветнай супольнасці з заклікам дапамагчы ёй у пошуках мужа.

Раней Завадская звярталася да Лукашэнкі і Пуціна з просьбамі пасадзейнічаць у пошуках Зміцера, але ні ад аднаго, ні ад другога ніякай рэакцыі не было.

У звароце Святлана коратка пераказвае гісторыю гэтага знікнення, якое ўскалыхнула Беларусь, і выказвае свае надзеі і думкі, якія без хвалявання чытаць немагчыма.

Святлана Завадская піша, што «блізкая да адчаю. Вельмі хочацца спадзявацца, што анёл-ахоўнік зберажэ Дзіму і нас ад самага жахлівага. «Выратуй і зберажы!»,– з гэтымі словамі я ўжо пяць месяцаў спрабую заснуць, і з гэтымі ж словамі сустракаю новы дзень з верай у Бога і розум чалавечы». ■

## Міліцыянты на лаве падсудных

**Ірына ШАНЦАВА**

6 лютага ў судзе Чыгуначнага раёна Гомеля пачаўся судовы працэс у дачыненні да супрацоўнікаў РАУС Цэнтральнага раёна горада, што збілі трох хлопцаў летась увесну.

Інцыдэнт, нагадаем, адбыўся 31 сакавіка 2000 года. Маладыя людзі былі затрыманыя каля свайго дома супрацоўнікамі міліцыі. Па дарозе ў аддзяленне, пагражаючы фізічнай расправай, міліцыянеры прымушалі іх прызнацца ва ўчыненні разбойнага нападу, які адбыўся ў суседнім доме.

У Цэнтральным РАУС прызнанне з іх сталі выбіваць ужо сілай. 21-гадовы Дзмітрый К. указаў у скарзе на імя пракурора, што пяцёра супрацоўнікаў міліцыі папераменна збівалі яго гумавай дубінкай, наносячы ўдары ў тым ліку і па голых пятках, потым білі па галаве і па пазваночніку, патрабуючы прызнання. Дзмітрый адзначае, што яго білі на працягу гадзіны, прычым настолькі моцна, што гумавая дубінка ў выніку зламалася.

Потым на маладых людзей былі складзеныя пратаколы аб дробным хуліганстве, дзе адзначалася, што яны, нібыта, выказваліся нецэнзурна ў дачыненні да прахожых і спрабавалі ўчыніць бойку, за што і былі затрыманыя міліцыяй.

На падставе гэтых пратаколаў суд Цэнтральнага раёна падверг Дзмітрыя К. штрафу ў памеры 2 мінімальных зарплат, а двум іншым маладым людзям быў прызначаны адміністрацыйны арышт на 7 сутак. Усе пацярпелыя звярнуліся ў судмедэкспертызу для зняцця пабояў, а потым і ў праваахоўныя органы.

Крымінальная справа ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі была ўзбуджаная Гомельскай абласной пракуратурай. Вартаўнікам парадку інкрымінуецца перавышэнне службовых паўнамоцтваў, службовы падлог і пагроза забойствам шляхам нанясення цялесных пашкоджанняў. ■

БелаПАН

## Мытнікам працы хапае

**Аляксей АРЭШКА**

Больш як 150 тысячаў долараў ЗША, 100 тысячаў нямецкіх марак, 180 тысячаў расійскіх рублёў, а таксама іншую валюту на агульную суму 252 мільёны рублёў канфіскавалі беларускія мытнікі ў парушальнікаў у студзені. Такія звесткі БелаПАН паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі.

Па выніках мінулага месяца, мытнікі таксама канфіскавалі 67 адзінак аўтатранспарту на суму 1 мільярд 155 мільёнаў рублёў, 943 тысячы штук цыгарэт на агульную суму 34,5 мільёна рублёў, 18 тысяч літраў алкагольнай прадукцыі на суму 14,5 мільёна рублёў. Супрацоўнікі мытных органаў прадухілілі некалькі спробаў вывазу абразоў XIX стагоддзя на суму 1,5 мільёна рублёў; 306 ювелірных вырабаў на суму 4,7 мільёна рублёў; 152 кілаграмы лому і зліткаў каляровых металаў (алюміній, медзь, латунь) на агульную суму звыш 36 мільёнаў рублёў. Акрамя гэтага, у першым месяцы года мытнікамі канфіскавана 39 кілаграмаў лому, які ўтрымлівае каштоўныя металы (паладый, плаціна, серабро) на агульную суму больш чым 85 мільёнаў рублёў. ■

БелаПАН

## Малады Фронт будзе судзіцца з мінюстам

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

5 лютага Малады Фронт падаў у Вярхоўны Суд іск са скаргай на дзеянні міністэрства юстыцыі, якое адмовіла гэтай маладзёжнай арганізацыі ў рэгістрацыі.

Маладафронтаўцы даводзяць пра няслушнасць адмовы з боку мінюста, называючы падставы, па якіх адмоўлена ў рэгістрацыі, «смешнымі». У прыватнасці, міністэрства патрабуе «членства» ў арганізацыі, а не «сяброўства». Малады Фронт вымагае ад Вярхоўнага Суда адмены мінюстаўскага рашэння і вердыкту зарэгістраваць арганізацыю. Хоць лідэр МФ Павел Севярынец заявіў, што «мы не маем ніякіх ілюзіяў адносна рашэння суда. Улады панічна баяцца распачатай намі шырокамаштабнай кампаніі па вывадзе беларускай моладзі на прэзідэнцкія выбары, і таму не могуць дазволіць легалізацыі маладзёжнага руху». ■

# Украіна без Кучмы

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Пад такой назвай прайшла ўчора ў сталіцы Украіны Кіеве масавая дэманстрацыя. Мэта ўдзельнікаў вынесеная ў назву акцыі – прэзідэнт Украіны мусіць пайсці ў адстаўку.

Яшчэ напярэдадні дэманстрацыі яе ўдзельнікі з'ехаліся ў Кіеў з розных куткоў краіны і разбілі палатачны лагер на галоўнай вуліцы сталіцы – Крэшчацiку.

У віну Леаніду Кучме ставіцца, апроч перманентнага эканамічнага крызісу, арганізацыя забойства незалежнага журналіста Георгія Гангадзэ, які знік у верасні мінулага года і чый труп быў знойдзены толькі ў лістападзе.

Пра дачыненне Л.Кучмы да гэтага знікнення стала вядома пасля таго, як былы прэзідэнцкі ахоўнік, маёр Службы бяспекі Украіны ў адстаўцы Мікола Мельнічэнка абнародаваў тыя запісы, што ён нібыта вёў у кабінеце прэзідэнта. На стужцы Леанід Кучма нібыта аддае загад кіраўніку СБУ Леаніду Дзеркачу і міністру ўнутраных справаў Юрыю Краўчанку – «разабрацца з грузінам».

Да апошняга часу Леанід Кучма, як і іншыя афіцыйныя асобы, адмаўляў самую магчымасць праслухоўвання. Аднак у панядзелак дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны Сяргей Галаваты заявіў, што падчас сустрэчы з ім Леанід Кучма прызнаў: яго праслухоўвалі. Па словах С.Галаватага, 30 студзеня ў размове з ім Л.Кучма заявіў, што ён сапраўды гаварыў з «сілавікамі» пра Г.Гангадзэ, але проста тыя яго «няправільна зразумелі». У гэты ж дзень прэссакратар прэзідэнта абверг гэтую інфармацыю.



«Кучма — гэть!» — піша дэпутат Рыгор Амельчанка

Па словах М.Мельнічэнкі, ён мае каля 300 гадзінаў запісаў, зробленых у прэзідэнцкім кабінеце. Усе яны, як кажа былы маёр СБУ, даказваюць тое, што Л.Кучма – злачынец і не можа кіраваць дзяржавай. Менавіта клопат пра лёс Украіны прымусіў былога ахоўніка весці гэты запіс.

На сёняшні дзень абнародаваныя толькі 24 хвіліны «стужак Мельнічэнкі». Але свой голас на іх ужо прызналі два дэпутаты ВР, сярод іх — сын загінуўшага два гады таму пры нявысветленых абставінах лідэра «Руху» Тарас Чарнавіл.

Былы ахоўнік ад моманту пачатку скандалу знаходзіцца за мяжой – «у адной з еўрапейскіх краінаў», але выказвае гатоўнасць даць афіцыйныя паказанні Генеральнай пракуратуры Украіны супраць Л.Кучмы.

Пазаўчора стала вядома — зноўтакі не напрамую, а праз дэпутата ВР, лідэра апазіцыйнай партыі «Сабор» Анатоля Матвіенку – пра добраахвотную адстаўку Генеральнага пракурора Украіны Міхаіла Пацыбенькі. Цяпер пракурор знаходзіцца ў 45-дзённым адпачынку, пасля чаго, як мяркуецца, пойдзе ў адстаўку.

М.Пацыбенька – даволі актыўны ўдзельнік канфлікту вакол прэзідэнта, натуральна – на ягоным баку. Спачатку ён адмаўляў факт знікнення Г.Гангадзэ, потым амаль два месяцы не хацеў прызнаваць, што знойдзены ў Таращанскім лесе пад Кіевам труп належыць журналісту, у рэшце рэшт, ён спыніўся на вельмі дзіўнай фармулёўцы «цела на 99,64% належыць Г.Гангадзэ, але мы працягваем спадзявацца, што ён яшчэ жывы». Што ж датычыць «стужак Мельнічэнкі», то спачатку ён называў іх ілжывымі, потым, пасля экспертызы, праведзенай ва Украіне, паведаміў, што голас прэзідэнта сапраўдны, але стужкі – «нарэзаныя» з розных месцаў – або скампіляваныя.

Спікер Вярхоўнай Рады Аляксандр Мароз – асабісты вораг Л.Кучмы і чалавек, які першы абнародаваў «стужкі Мельнічэнкі», – заявіў, што калі пасля адстаўкі М.Пацыбенькі ў адстаўку пойдзе і сам Л.Кучма, то парламент мусіць прыняць закон аб гарантыях яму і ягонай сям'і. Але пры гэтым сама ініцыятыва мусіць зыходзіць ад прэзідэнта.

Леанід Кучма апынуўся фактычна загнаным у кут. Перад ім стаіць вельмі цяжкая альтэрнатыва: або ўзмацніць сваю ўладу па беларускім прыкладзе, разганяць апазіцыйныя мітынгі, узбудзіць крымінальныя справы супраць галоўных палітычных канкурэнтаў – напрыклад, за паклёп — і ў выніку атрымаць статус дыктатара, або прызнаць сваё дачыненне да апошніх скандалаў і пайсці ў адстаўку. ■

# Рэйган дажыў да 90-годдзя

Міхась КАРПОВІЧ

Былы амерыканскі прэзідэнт Рональд Рэйган адсвяткаваў 5 лютага сваё 90-годдзе.

Р.Рэйган цяпер жыве ў сваім доме ў прыгарадзе Лос-Анджэлеса, дзе і адбылася ўрачыстая цырымонія.

Як паведаміла жонка экс-прэзідэнта Нэнсі Рэйган, святкаванне прайшло даволі сціпла – з-за стану здароўя юбіляра. Вось ужо колькі гадоў Р.Рэйган пакутуе на хваробу Альцгаймера. А пару месяцаў таму былы прэзідэнт упаў і атрымаў пералом бядра.

Нягледзячы на тое, што пасля 1988 года, калі новым прэзідэнтам ЗША стаў Джордж Буш-старэйшы, Рональд Рэйган рэдка з'яўляўся на публіцы, ён дагэтуль карыстаецца вялікай папулярнасцю ў Амерыцы. Лічыцца, што ён шмат у чым паспрыяў разбурэнню савецкага рэжыму, а ў самой Амерыцы пры ім адбыўся сапраўдны эканамічны бум.

Па словах афіцыйных прадстаўнікоў былога прэзідэнта ЗША, на яго імя з нагоды юбілею прыйшло некалькі тысячаў віншавальных паштовак.

А агенцтва *Associated Press* паведаміла, што Рональд Рэйган стаў трэцім у гісторыі прэзідэнтам ЗША – пасля Джона Адамса і Герберта Гувера, – якому ўдалося дажыць да 90-годдзя. ■

# Пахаладанне ў Еўропе

Ірына СТАРЦАВА

Снегапады на поўначы Еўропы прывялі да парушэння чыгуначнага, аўтамабільнага і авіяруху. Рэзкае паніжэнне тэмпературы ў некаторых раёнах пацягнула адмену заняткаў у школах, а таксама надзвычай высокае спажыванне электраэнергіі.

У Даніі з-за завірухаў, маразоў і ветру, хуткасць якога дасягала 74 кіламетраў у гадзіну, паліцыя скасілала кіроўцаў устрымацца ад падарожжаў. Учора ў школах Даніі былі адмененыя заняткі. Таксама затрыманыя або адмененыя дзесяткі авіярэйсаў з Капенгагена.

Не менш праблемаў і на чыгунцы. Пуці засыпаныя снегам, і цягнікі не могуць прабіцца праз заносы. Ледзь не ў блакадзе апынуўся трэці па памеры горад Швецыі – Мальмё.

На поўначы Германіі, у Нарвегіі, Фінляндыі і Швецыі таксама адмянілі школьныя заняткі. Снегапады ў гэтых краінах выклікалі значныя затрымкі ў руху электрацягнікоў і прывялі да павелічэння колькасці аўтамабільных аварыяў.

Са спазненнем адбываліся вылеты самалётаў з аэрапорта Гамбурга – снег, які ішоў усю ноч, пакрыў узлётна-пасадачныя палосы 10-сантыметровым слоем снегу.

Нарвежскія і шведскія электраэнергетычныя кампаніі паведамілі, што спажыванне электрычнасці ў гэтых краінах б'е ўсе рэкорды. І гэта нядзіва: у паўднёвай частцы Нарвегіі, напрыклад, тэмпература апусцілася да –37 градусаў па Цэльсіі. ■

# Карупцыя ў Францыі: новыя імёны

Міхась КАРПОВІЧ

У французскім карупцыйным скандале можа быць замешаны былы нямецкі канцлер Гельмут Коль.




Нафтаперапрацоўчы завод кампаніі *ELF* ва Усходняй Германіі

Мы ўжо паведамлялі пра справу аб карупцыі, якую расследуе французскі суд і дзе абвінавачваюцца былы міністр замежных справаў Францыі Ралан Дзюма разам з сваёй былой каханкай Крысцін Дэўе-Жанкур. Але нагадаем: размова ідзе пра атрыманне хабару ў памеры некалькіх мільёнаў долараў ад буйнейшай французскай нафтавай кампаніі *ELF*.

Цяпер аказваецца, што кампанія мела вялікую «чорную» касу, з якой «падмазвала» палітыкаў найвышэйшага ўзроўню. Зрэшты, кіраўніцтва кампаніі не забывала і пра сябе.

Учора ў Францыю быў дастаўлены Альфрэд Сірван – нафтавы магнат ва ўцёках, былая «асоба №2» у кампаніі *ELF*. Ён быў затрыманы на Філіпінах і дастаўлены спачатку ў Франкфурт, а потым і ў Парыж.

Як лічыцца, Альфрэд Сірван трымаў гэтую самую «чорную касу» і таму мусіць быць добра абазнаны ў тым, хто і колькі атрымоўваў незаконных грошай. Калі ён пачне гаварыць, то французскую эліту чакаюць вельмі непрыемныя хвіліны. Сам А.Сірван ужо пагражае стварэннем новых сенсацыяў.

Цікава, што магната затрымалі на Філіпінах, куды той прыехаў па пашпарце нейкай памерлай асобы, супрацоўнікі нямецкіх спецслужбаў. Спачатку яны планавалі перадаць яго адразу французскім калегам, але потым, калі высветлілася, што самалёт на Парыж будзе толькі на наступны дзень, павезлі яго ў Франкфурт. І вось тут аказалася, што Германіі Альфрэд Сірван патрэбны не менш.



74-гадовы Альфрэд Сірван

Нямецкую Феміду вельмі цікавіць адказ на пытанне: ці атрымоўвала ў 1992 годзе партыя ХДС/ХСС, якая тады была кіруючай і якую ачольваў тагачасны канцлер Гельмут Коль, камісійныя ад *ELF* за «спрыянне» ў справе прыватызацыі нафтаперапрацоўчага завода ўсходнегерманскай фірмы *Leuna*? Фірма была прададзеная французскаму канцэрну па мінімальным коштце. Дарэчы, на момант здзелкі кампанія *ELF* была яшчэ дзяржаўнай.

Таму А.Сірван спачатку быў дапытаны ў Германіі, а ўжо потым перададзены французскім праваахоўным органам, якія вывезлі яго ў Парыж на ваенным самалёце. ■

# Папон мусіць застацца за кратамі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Былы чыноўнік калабарацыяністскага ўрада Вішы ў Францыі Марыс Папон мусіць заставацца за кратамі – такое патрабаванне ўдзельнікаў дэманстрацыі, што прайшла перад брамай парыжскай вязніцы ў панядзелак. У акцыі, што была наладжаная габрэйскімі абшчынамі Францыі, бралі ўдзел не менш за 100 чалавек.

Справа Марыса Папона разбіралася ў 1998 годзе і фактычна падзяліла Францыю на два лагеры. 88-гадовы былы чыноўнік быў арыштаваны за супрацоўніцтва з фашысцкім рэжымам і асуджаны да 10 гадоў турэмнага зняволення.

Але галоўная праблема ў тым, што падчас Другой сусветнай вайны М.Папон, відавочна, з мэтай захавання ўласнага жыцця, дапамагаў таксама і байцам Супраціўлення. Больш за тое, ён нават быў узнагароджаны за гэта найвышэйшай адзнакай Францыі – Ордэнам Ганаровага Легіёна. Такім чынам, да 1998 года ён лічыўся нацыянальным героем і барацьбітам з фашызмам – пакуль не стала вядома: Марыс Папон спрычыніўся і да адпраўкі французскіх габрэяў у лагеры смерці.

Цяпер у Францыі вядуцца дэбаты аб гуманнасці ўтрымання за кратамі 90-гадовага старога з вельмі кепскім станам здароўя. Адвакаты М.Папона падалі апеляцыю ў Еўрапейскі суд па правах чалавека. Яны сцвярджаюць, што ўтрыманне іхняга кліента за кратамі негуманнае, калі браць пад увагу ягоны ўзрост і стан здароўя. ■

# Цэрэтэлі незаконна прыдбаў кватэры?

Міхась КАРПОВІЧ

Расійскі скульптар Зураб Цэрэтэлі, вядомы сваімі манументальнымі творамі, аказаўся ў цэнтры карупцыйнага скандалу ў Іспаніі. Яго абвінавачваюць у незаконным атрыманні дзвюх кватэраў у прэстыжным раёне горада Марбелья.

Мэр Марбельі Хесус Хіль быў у панядзелак выкліканы да суддзі ў Малагу для дачы паказанняў па справе аб «рускай статуі». Размова ідзе пра скульптуру «Перамога» З.Цэрэтэлі, што падараваў гораду Марбелья мэр Масквы Юрый Лужкоў, паведамляе РИА «Новости».

У 1996 годзе прадстаўнікі Сацыялістычнай партыі абвінавацілі Хесуса Хіля ў тым, што ён заплаціў за «падараваную» скульптуру 141 мільён песетаў (па тых часах – прыкладна адзін мільён долараў) з муніцыпальнага бюджэту.

Пасля гэтага, як сцвярджаюць сацыялісты, мэр правёў складаную фінансавую камбінацыю з муніцыпальнымі зямельнымі ўчасткамі, у выніку чаго, па звестках іспанскіх сродкаў масавай інфармацыі, на імя Зураба Цэрэтэлі былі аформленыя дзве кватэры ў элітным раёне Порт-Банус, дзе стаіць статуя маскоўскага скульптара.

Хесус Хіль адвяргае абвінавачванні і называе іх «палітычнымі» і «паклёпнымі». Па ягоных словах, «Перамогу» горад атрымаў задарам.

Цікава, што справа аб статуі З.Цэрэтэлі – толькі адна з больш чым 70 абвінавачванняў, што былі высунутыя супраць Х.Хіля. Яго таксама абвінавачваюць у карупцыі, хабарніцтве і злоўжыванні ўладай. ■

# Чэшскіх палітыкаў выпусцілі

Ірына СТАРЦАВА

**Чэшскія грамадзяне Іван Пілiп і Ян Бубенік, якія з 12 студзеня знаходзіліся ў кубінскай вязніцы, былі выпушчаныя на волю і вылецелі з Гаваны на радзіму.**

Як мы ўжо паведамлялі, абодва палітыкі, адзін з якіх быў раней міністрам фінансаў, а другі – шматгадовым лідэрам студэнцкага руху, былі арыштаваны кубінскімі ўладамі за сустрэчу з кубінскімі дысідэнтамі.

Куба абвінаваціла чэшскіх палітыкаў у арганізацыі падрыўной дзейнасці на тэрыторыі Кубы. Тыя прывезлі на «Выспу Свабоды» інфармацыйныя матэрыялы, якія былі перададзеныя амерыканскай дэмакратычнай арганізацыяй *The Freedom House*. Менавіта гэтая інфармацыя была палічаная кубінскімі ўладамі «правакацыйнай».

Кубінскі лідэр Фідэль Кастра таксама назваў чэшскую амбасаду ў Гаване «шпіёнскім гняздом», якое «вось ужо 10 гадоў шпіёніць за намі».

Усе звароты Чэхіі, у тым ліку асабіста прэзідэнта Вацлава Гавела, да ўладаў Кубы з просьбай аб вызваленні палітыкаў, не прынеслі поспеху. Фідэль Кастра адмаўляўся гэта зрабіць, пакуль Куба не атрымае афіцыйных прабачэнняў за «падрыўную дзейнасць».

Як паведамляюць чэшскія сродкі масавай інфармацыі, у рэшце рэшт 37-гадовы Іван Пілiп і 32-гадовы Ян Бубенік мусілі афіцыйна прабачацца перад кубінскім народам і заявіць, што парушылі кубінскія законы па няведанні. Інакш ім пагражала судовае разбіральніцтва і да 20 гадоў турэмнага зняволення.

Як паведамілі журналістам прадстаўнікі Міжпарламенцкага Саюза, якія таксама вялі перамовы аб вызваленні чэхаў, І.Пілiп і Я.Бубенік не былі выдвараныя з краіны, але пакінулі яе як турысты. ■



Іван Пілiп і Ян Бубенік

# Малдэйкіс пайшоў у адстаўку

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Літоўскі міністр гаспадаркі Эўгеніюс Малдэйкіс вырашыў добраахвотна пайсці ў адстаўку – як ён сам гаворыць, «каб захаваць стабільнасць урада». Пра гэта міністр учора паведаміў у адмысловым паведамленні для прэсы.

Мы ўжо паведамлялі, што раней Э.Малдэйкіса абвінавацілі ў неэтычных паводзінах – ягоны неафіцыйны візіт у Маскву адбыўся на грошы прыватнага бізнесу і не быў узгоднены з міністэрствам замежных справаў Літвы. Нягледзячы на тое, што Галоўная камісія па службовай этыцы прызнала падарожжа міністра ў Расію «прымальным», Э.Малдэйкіс вырашыў адхрысціцца ад абвінавачванняў ва ўласнай «ангажаванасці» прыватным бізнесам, у тым ліку – і некаторымі «сумнеўнымі арганізацыямі», у чым яго працягвалі абвінавачваць літоўскія СМІ. Дарэчы, пайсці ў адстаўку яго папрасілі прэзідэнт краіны Валдас Адамкус і старшыня Сейма Артурас Паўлаўскас. ■

# Женские нюансы журналистики и политики

## Типично женский взгляд на борьбу политических сил в Беларуси: «Ребята, давайте ляжем на спину!». Типично гомосексуальный взгляд: «Ребята, давайте станем на четвереньки!»

**Александр ДУБРАВИН**

***«Мне кажется, что не существует женской журналистики, как не существует женского кино, женской литературы, женской живописи...- Кажется мне, что все эти словосочетания придумали завистливые мужчины, которые не могут пережить успехов женщин... Я думаю, женщины сами должны лезть туда, куда их не хотят пускать. Я же пролезла».***
Ирина Халип, журналистка «БДГ». Из интервью на сайте радиостанции «Свобода»

***«Приблизительно 90 процентов женщин имеют весьма ограниченную способность к ориентации». «Рассказывая о своих проблемах, женщина тем самым пытается снять стресс. Она хочет, чтобы ее выслушали, а не ищет решения своих проблем».***
Аллан и Барбара Пиз «Язык взаимоотношений»

### 1.Два мира – две системы

Совсем не случайно на сайте белорусской редакции радиостанции «Свобода» журналист Виталий Цыганков затеял обсуждение темы: «Существует ли женская журналистика?». Казалось бы, в наше напряженное время найдется о чем поговорить и без подобных пустяков. Тем не менее выясняется, что эта тема сегодня чрезвычайно актуальна. По моему глубокому убеждению, женская журналистика не только существует, здравствует и благополучно развивается, но в Беларуси она давно уже доминирует в средствах массовой информации, кардинальным образом и чрезвычайно пагубно влияет на все политические процессы в стране. А о женской политической журналистике вообще нужно говорить как о явлении неестественном и потому опасном для общества. С ходу отметаю обвинения в мужском шовинизме.







Вот вам авторитетное мнение американских исследователей Алана и Барбары Пиз, прошу прощения за обширную цитату из их книги «Язык взаимоотношений»: «Когда женщина высказывает что-то, то делает это в косвенной форме, только намекая на то, что хочет сказать, другими словами – «ходит вокруг да около»...Женские мозги ориентированы на процесс, и процесс беседы сам по себе доставляет им удовольствие. У мужчин нехватка логики и целесообразности в разговоре вызывает раздражение, и они обвиняют женщин в том, что те сами не знают, о чем говорят... Намеки и околичности могут отлично сработать при налаживании отношений, но, к сожалению, это преимущество несколько бледнеет, если автомобиль или самолет разобьется из-за того, что водитель или летчик не получили четкого представления о том, что было сказано».

Итак, дело вовсе не в количестве пишущих женщин-журналистов, не в их способностях, не в вековых традициях домостроя. Причина в двух, природой основанных системах мировосприятия — мужской и женской, в биологической сущности людей. Мужчины хотят власти, успеха и секса. Женщины хотят теплых отношений, стабильности и любви. Мужчины обладают аналитическим складом ума, а женщины – синтетическим. Мужчина может идеально по полочкам разложить то или иное явление действительности, а женщина по одному волоску на рукаве способна воссоздать цветную объемную картину измены супруга. Женщины ценят взаимоотношения, а мужчины – дело. Поэтому мужчины пишут в газетах о том, как нужно и можно добиться того или иного результата наиболее эффективным способом, а женщины пишут о том, как избежать волнений, напряжения, конфликта, выяснения отношений. Конкретного выхода из нарисованной ими ситуации, как правило, не видно. Видна картина возможного поражения и связанных с этим проблем. Представители мужской журналистики вселяют уверенность в достижении того или иного результата, а представители женской журналистики повергают читателей в бесконечные сомнения. И когда речь идет о семье, детях, милосердии, модах, сплетнях, животных, о любви и многосерийных бразильских фильмах, то здесь женщинам нет равных во Вселенной. Но политика! Политика — истинно мужское дело, поскольку это вещь очень жестокая, конфликтная, непримиримая. Политика – очень точная наука и требует мужского аналитического подхода.

### 2.Политик – существо мужского рода

Каждый реальный политик – эгоист чистейшей воды – только и думает о своем успехе, только и мечтает обойти всех своих конкурентов. Политик не умнее прочих, но обладает выдающейся целеустремленностью. Вся его жизнь делится на две половины: настоящую и придуманную. Одна держится в строгом секрете, другая предается как можно более широкой огласке. Иногда он прикидывается незаметным, отошедшим от дел, ослабевшим от ран или от старости. В трудных условиях он идет на уступки своему противнику с целью сохранить больше, чем потерял. Маскирует свои действия, ищет и находит сторонников, союзников, плетет интриги, распространяет нужную ему информацию и дезинформацию, заключает соглашения с единомышленниками. Настоящий политик верит в себя и в союзников. Он исподволь привыкает к власти, любит власть, желает власти и знает, как ее достичь. К такому поведению подталкивают его ярко выраженная мужская природа и условия достижения победы. В этом его сила и привлекательность, в том числе и для женщин. В этом причина того, что вокруг него легко объединяются не менее сильные личности, интеллектуально дополняющие политика, но не обладающие такой ярко выраженной целеустремленностью.

Сила и влияние политика многократно возрастают при создании широкой коалиции единомышленников. Слабый состав коалиции безошибочно указывает на дефективность политика, истощение его энергии и целеустремленности. (Люди из нынешнего окружения Александра Лукашенко, например, служат наиболее яркой приметой его личной слабости). Но в коалиции все бывает более-менее гладко, обычно, до той заветной и счастливой минуты, когда политик начинает ощущать собственную силу, пока не выйдет на финишную прямую к победе, откуда уже виден пьедестал почета. На этом этапе он норовит захватить все бразды правления в свои руки и здесь, как правило, его ждут самые крупные неприятности. На этом этапе политик чрезвычайно уязвим, словно краб без панцыря: любое ничтожное затруднение, ошибка, оплошность, неудача, происки соперника, информационное нападение способны поставить под сомнение его окончательный успех. Поэтому так мало у нас политиков, которые могут и умеют работать в связке, поэтому так много поражений и так мало у них побед.

Поэтому, кстати, так трудно выработать общую стратегию борьбы и подчинить ей свободных в своем выборе политиков. Люди с рациональным мужским мышлением это понимают, с женским – нет. Представителей женской политической журналистики просто травмирует отсутствие любого согласия, даже мнимого. Они выливают свое беспокойство в бесконечных газетных пересудах об очевидных вещах, перемежаемых неясными упреками, недомолвками, пессимизмом и разочарованием. Возможно, что в некоторых житейских конфликтных ситуациях, например, когда двое интеллигентных мужчин горячо о чем-то спорят, а жены их уговаривают успокоиться и помириться, такое женское качество вполне уместно: позволяет сохранить силы и нервы. Но представьте себе ситуацию, когда маньяк бросается на вас с топором в руке, а хор женщин со стороны начинает именно в этот момент подвергать сомнению ваши возможности в победе, иронизировать над вами, предлагать успокоиться и сдаться на милость победителя! А ведь в белорусской политике именно такая ситуация повторялась уже несколько раз.

*Окончание следует*

# Быць чыноўнікам –небяспечна для здароўя

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



У нядзелю позна ўвечары ў Гродне памёр старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко. Яму было 63 гады. Папярэдне вядома, што ў яго здарыўся сардэчны прыступ. У вобласці абвешчаная трохдзённая жалоба, адмененыя ўсе забаўляльныя мерапрыемствы. 5 лютага ў Гродне якраз павінен быў адбыцца канцэрт «самай жаноцкай спявачкі Расіі» — Валерыі.

У якасці будучай замены для Дубко ўлетку з Магілёва быў прысланы Уладзімір Саўчанка, якога Лукашэнка прызначыў першым намеснікам старшыні аблвыканкама па сельскай гаспадарцы. Сёння Саўчанка быў прызначаны выконваць абавязкі кіраўніка абласной улады. Міліцыі і КДБ загадана сачыць за захаваннем стабільнага становішча і парадку ў горадзе. Хаця, чаго баяцца ўладзе — незразумела. Мітынгаў, дэманстрацыяў, рэвалюцыі і захопу ўлады ў асобнай вобласці?

Хутчэй, папросту Лукашэнка баіцца свайго народа, як ягонае чынавенства баіцца яго самога. Пад час жалобнага паведамлення БТ паказвала вядомыя кадры: Лукашэнка і Дубко на калгасным палетку ў жніўні 2000 года. Якая, маўляў, ідылія! Лукашэнка нешта гаворыць, але гуку няма. А між тым вядома, з чаго пачалася тая сустрэча. Лукашэнка, які прыляцеў верталётам, пачаў наступнымі словамі: ужо 12 гадзінаў дня, у Мінскай вобласці 3 камбайны ў полі, а ў цябе толькі 2, Дубко... Затым Рыгоравіч сагнуўся (што добра відно ў жалобным сюжэце) і пачаў выбіраць з пожні згубленыя зярняткі, робячы закіды старшыні аблвыканкама. Думаецца, што такая сустрэча здароўя нябожчыку не палепшыла. А яшчэ раней была селектарная «тэлепраборка», якую ўчыніў Лукашэнка Дубко за мітынг 25 сакавіка 1997 года. Гэтую непрыгожую сцэну таксама бачыла ўся краіна.

Тым не менш, Дубко быў патрэбны Рыгоравічу, бо выконваў усе ягоныя распараджэнні. Нябожчык любіў паўтараць, што палітык у краіне павінен быць адзін (вядома—які), а ўсе астатнія, маўляў, выканаўцы ягоных распараджэнняў. Вечная напружанасць, нервовасць, ціск, страх. Пры дапамозе гэтага кіруе Лукашэнка. І гэта не праходзіць бясследна для выканаўцаў. Аблвыканкамаўскія чыноўнікі сёння адзначаюць, што Дубко на планёрках не крычаў, не ўчыняў праборак. Але знаходжанне ў «абойме» Лукашэнкі адбівалася і на старшыні аблвыканкама. Ён, любячы наведваць баскетбольныя матчы, часам мог у запале даць прачуханца, напрыклад, суддзі. А па выніках першага туру восеньскіх выбараў у палату ўчыніў праборку начальству аднаго з райцэнтраў. Аднаго з тых, хто атрымаў тады прачуханца, калі ён выйшаў на калідор, схапіў сардэчны прыступ. Аб здарэнні нават паведаміла мясцовая прэса.

Гавораць, што Дубко прасіўся ў Лукашэнкі, каб той яго адпусціў. Карацей, каб даў пажыць спакойна. Але, як ужо гаварылася, ён Рыгоравічу быў патрэбны. І Дубко гэта разумеў. Таму, як кажуць у аблвыканкаме, Дубко вырашыў адзначыць адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў «200-годдзе Гродзенскай губерні» і пайсці ў адстаўку. Дзеля гэтага нават на год раней юбілей вырашылі перанесці, бо цар Аляксандр, як добра вядома, стварыў губерню ў 1802 годзе. Але старшыні аргкамітэта святкавання, якім быў сам абласны галава, ужо няма.

Вяртаючыся да згубнага ўплыву метадаў кіравання Лукашэнкі на ягоных чыноўнікаў, назаву яшчэ адзін прыклад. Вялікі гродзенскі начальнік таксама ўчыніў разборку па тых жа выніках выбараў у палату мінулай восенню. Сабраўшы мноства кіраўнікоў, ён пачаў крычаць: вы ахрэнелі, ахрэнелі! Сярод сабраных не знайшлося аніводнага мужчыны з пачуццём уласнай годнасці. Хаця б перад жанчынамі, якіх таксама было нямала ў зале, паказалі сябе нармальнымі людзьмі, дык — не! Праўда, крыкун-начальнік іх своеасабліва супакоіў: вы думаеце, гэта я вас моцна лаю, ды вы паслухалі б, як мяне лаюць! Гэткая салідарнасць «прыніжаных і зняважаных» атрымліваецца. А прыніжае і зневажае цэлую краіну, цэлы народ адзін-адзіны чалавек.

Пахаваны А.Дубко будзе 7 лютага на ўжо закрытых гарадскіх могілках на праспекце Касманаўтаў. Там на спецучастку для начальства знаходзіцца і магіла былога старшыні аблвыканкама Д.Арцымені, гвалтоўна забітага кілерам. Абавязкова выкрыць забойцаў абяцаў гродзенцам на мітынгу ў прэзідэнцкую кампанію сам Рыгоравіч. Маўляў, толькі абярыце яго прэзідэнтам. Але хто забіў Арцыменю—дагэтуль невядома. На пахаванне А.Дубко прыедзе асабіста А.Лукашэнка. Таму, меры па ягонай ахове ў цэнтры горада чакаюцца надзвычайныя. ■

# Александр Лукашенко: «Жена мне давно твердит: «Посадят тебя, Саша...»

**Наталья РАДИНА**

**На днях свое пятилетие отметила витебское малое предприятие «Александр Лукашенко и Компания». Его владелец, Александр Игнатьевич Лукашенко, всего лишь тезка Александра Григорьевича Лукашенко, но фигура могущественного однофамильца не раз бросала тень на бизнес и даже судьбу А.И.Лукашенко.**

«Александр Лукашенко и Компания» – скромная фирма, которая сводит концы с концами, занимаясь оптовой торговлей продуктами питания и товарами промышленного производства. О том, каково быть **Александром Лукашенко,** рассказывает Александр Лукашенко.

***— Александр Игнатьевич, как вашей фирме с таким названием удалось продержаться целых пять лет?***

— А мне никто и не позволил назвать мою фирму моим собственным именем. В формальном реестре субъектов хозяйствования мое предприятие зарегистрировано как «АЛиК». Я лично присутствовал при том, как представитель Октябрьского райисполкома Витебска неофициально приказал юристу ни в коем случае не регистрировать предприятие с названием «Александр Лукашенко и Компания». Отсюда сразу же возник ворох бюрократических проволочек с регистрацией, и мне пришлось сократить себя до «АЛиКа». При этом я имею полное право называть фирму собственным полным именем хотя бы на том основании, что я старше Александра Григорьевича. Но все же единственное, в чем я все эти годы не нуждался, так это в рекламе.

***— Приходилось ли вам когда-нибудь отвечать за действия однофамильца?***

— Постоянно. После очередного «подвига» тезки знакомые в шутку спрашивают меня: «Ну что ты опять натворил? Сколько можно?» А если серьезно, то были и очень неприятные моменты. Как-то я ужинал в ресторане с одним из своих партнеров. Туда же зашел милиционер и, мягко говоря, повел себя очень нагло и невоспитанно. Я сделал ему замечание. Нас тут же затащили в вытрезвитель. И вот что интересно: моего партнера не тронули. А меня, узнав про имя и фамилию, так избили, что я, извините за подробности, еще очень долго оправлялся кровью. По-видимому, даже там люди все понимают.

Но были и веселые случаи. И опять же с милицией. Недавно я возвращался с товаром из Ставрополя, где заключил договор с директором колхоза А.Невзоровым. Но по дороге меня остановили сотрудники ГАИ. Как правило, они просто так не отпускают, но тут один из них, прочитав договор, как-то сразу побледнел и замахал руками: «Отпускай его! Тут же договор между А.Невзоровым и А.Лукашенко!»

***— Ну а как на вас реагирует налоговая инспекция и другие контролирующие органы?***

— Не скажу, что название фирмы действует на них как охранная грамота. Иногда даже наоборот. Приходится унижаться как и всем частным предпринимателям, а иногда даже больше, чем остальным. Жена мне давно твердит: «Посадят тебя, Саша...»

***— Александр Игнатьевич, измените ли вы название своей фирмы, если Лукашенко не переизберут?***

— Конечно, нет. Президенты приходят и уходят, а я остаюсь. ■

# Выгады будуць толькі Маскве



**Наталля МАКОВІК**

«На ўсход ад нас узнік зародак дзяржаўнага злепка, які мы назіралі ў выпадку былога Савецкага Саюза», — так, на думку чэшскага штомесячніка «Міжнародная палітыка», можна ахарактарызаваць беларуска-расійскі саюз. У аналітычным матэрыяле пад назвай «Існаванне расійска-беларускага саюза пасля беларускіх парламенцкіх выбараў», які апублікаваныя ў апошнім нумары выдання, адзначаецца: «Пераважная большасць каментатараў азначае яго (Саюз Беларусі і Расіі. — **БелаПАН**) як добраахвотнае аб'яднанне дзяржаваў, якое, па праекце, мусіць пераўтварыцца ў канфедэрацыю, а затым — у эканамічнае і палітычнае цэлае».

Хаця беларускі народ і пераконаваюць у тым, што стварэнне Саюза — вынік братэрскіх стасункаў з Расіяй, які дае магчымасць палепшыць дабрабыт грамадзянаў, рэалізацыя гэтага палітычнага праекта, на думку чэшскага выдання, прывядзе да іншага: «першым практычным вынікам павінна стаць узнікненне агульных ваенных адзінак». «Узнікненне Саюза Расіі і Беларусі будзе азначаць вялікую геапалітычную змену (а гэтая тэндэнцыя будзе нязменна паскарацца абраным парламентам), і ўсе бясспрэчныя выгады гэтага Саюза будуць служыць толькі Маскве», — робіць вывад «Міжнародная палітыка». ■

БелаПАН

# Сталёвая казка Беларусі

Міхал ЗАЛЕСКІ

**З 10 мільёнаў беларусаў 40% жыве на тэрыторыі з высокай ступенню радыяцыйнага забруджвання. 200 тысяч грамадзянаў краіны былі ліквідатарамі. Немагчыма ўлічыць, колькі людзей працавала ў зоне пазней.**

На ліквідацыю наступстваў аварыі ў Беларусі ідзе 25% ВНП, і можна казаць, што рэсурсы краіны ідуць на забеспячэнне фізічнага выжывання насельніцтва. Гаворка ідзе аб лёсе генафонду нацыі. Вось чаму перад Беларуссю паўстаюць проста унікальныя, невядомыя гісторыі задачы. Захаваць гіганцкія заводы, што дасталіся ў спадчыну ад савецкага ВПК, якія забяспечваюць работу мільёнам людзей і папаўняюць бюджэт.

**Фрагмент пресс-конференции Президента Республики Беларусь А.Лукашенко на Экономическом форуме в Кран-Монтана /Швейцария/ 26 июня 1998 г.**

За другімі Саветамі мы былі плацдармам для Вялікай Пагоні на Захад. За Віслу, за Одру, за Рэйн – да мора. Воляю Сталіна.

Ды не стала яго. Час ішоў. Свет змяніўся навокал. Засталіся самі. І скарб – ВПК – сталёвае сэрца памерлай пачвары.

Набытак не кідаюць на сметнік. Тое, што ведаеш, не варта забываць. Трэба жыць з чым Бог даў. Два з паловай дзесяткі абаронных навукова-даследчых інстытутаў і больш за паўсотні заводаў зробленыя беларусамі і нам павінны належаць.

З аднаго боку кажуць: разбурыце, канверсуйцеся, бо нікому не патрэбныя. З іншага падказваюць: інтэгруйцеся, бо да вашага ключа замок маем, вы «НАШИ».

Што ж насамрэч з тым ВПК. Рэч вельмі далікатная. Але як пашурудзіш у Сеціве, тое-сёе цікавае прачытаеш. Напрыклад, інтэрв'ю кіраўніка дзяржавы часопісу «Военный парад»

Так, Беларусь амаль не робіць зброю, ад пачатку да канца. Але ад сталінскай стратэгіі засталося зброі на колькі добрых арміяў. Трэ было паводле міжнародных дамоваў скараціць 2.300 танкаў, 800 БМП, 118 самалётаў, не лічыўшы рознай небяспечнай драбязы.

Спачатку неяк бесталкова скарачалі, потым паціху сталі гандляваць. Міністэрства абароны, што тым гандлем займалася, рабіла ўсё без асаблівага размаху. Па выніках 1995 года Беларусь нават у трыццатку лепшых гандляроў не ўваходзіла.

З'яўленне ў краі акрэсленай палітычнай волі выклікала да жыцця фірмы «Белтехэкспорт», «Белорусинторг», «Белвнешпромсервис», «Белспецвнештехника» і, па дадзеных *SIPRI*, наш мірны партызанскі край у 1996 з тылу ўварваўся ў дзесятку лепшых гандляроў зброяй.

Нехта скажа, што гэта дрэнна. Не. Да зброі патрэбныя запчасткі, а іх у нас таксама засталося багата. І пакуль расійцы не трансфармавалі свайго манапаліста «Росвооружение», мы нядрэнна жывіліся на кантрактах меншых за 10 млн. доляраў. Расійскі «Прамэкспарт» нас таго шчасця пазбавіў. «Дружба дружбой, а табачок врозь», так нашыя суседзі каментуюць гэткія падзеі.

Нехта скажа, што гэта дрэнна, і памыліцца. Бо мусім шукаць пакупнікоў інтэнсіўна і там, дзе расійцаў не пускаюць: у Іране, Югаславіі, Судане, Афганістане. Прыкладамі ўдалых гешэфтаў таго кшталту ёсць, напрыклад, продаж старых мадэляў танкаў КНДР, продаж венграм 100 танкаў Т-72 па льготным кошце – 1 млн.доляраў за штуку, продаж стралковай зброі Судану, БМП і «Градаў» – Анголе, самалётаў – Перу і г.д.

Нехта скажа ... Ужо не скажа. Бо ў тых справах таксама трэба, каб цябе ведалі. Да таго ж савецкі рэзерв не бясконцы. Карацей кажучы, нашая інтэнсіўная валтузня са зброяй прыцягнула ўвагу кітайцаў.

Гэты вялікі і мудры народ абы з кім і абы-што не робіць. Кітайцы добра вывучылі і вызначылі нашыя сапраўдныя магчымасці. Яны разгортваюць нармальнае супрацоўніцтва. Аўтамабільныя шасі, трубаправоды хуткага разгортвання, оптыка: наземная, падводная, касмічная; аўтаматызаваныя сістэмы кіравання – усё гэта ахвотна купляецца на Далёкім Усходзе.

Да таго ж, і наша газета пісала пра тое, носьбіты найстарэйшай у свеце цывілізацыі разумеюць ролю навукі – іхная замова нашым навукоўцам сёлета пацягнула на амаль 50 млн. доляраў. Балазе, уся айчынная навука атрымлівае ці не ўдвая болей.

Таму калі думцам-аднадумцам іхні лепшы сябра-беларус казаў: «А нас убаюкивали, и мы разрушили самый наукоемкий высокотехнологичный комплекс ВПК. Зачем мы это сделали? Кому это было выгодно?», то гэта быў не болей чым класічны прыём беларускай народнай сафістыкі.

Бо ён ведае, што чым мацней ціснецца да Расіі, тым больш прымушае Захад пра нас думаць. Ведае, што чым больш заблытваецца тая Расія, тым ён вальнейшы і мацнейшы, бо меч замок добра, але з ключом. Расія – замок на браме ў Азію, мы да таго замка ключ.

А наконт таго, ці моцны наш ВПК, дык гэта ваенная тайна.

Вельмі важна пры тым вучыцца ў вялікага кітайскага народа дбаць пра ўласны інтарэс. Думаць пра дзяцей і ўнукаў. Каб яны былі здаровыя і пісьменныя. Вучыцца, бо раней думалі не пра тое. Бо ўся навука ў нас была 50 гадоў прычэпленая да вытворчасці і абслугоўвання вайны і зброі.

Зараз мусім адной часткай тае навукі ліквідаваць наступствы Чарнобыля, другой зарабляць грошы на ліквідацыю. Каб мець тыя грошы, мусім рабіць самую лепшую ў свеце прадукцыю. Каб тая прадукцыя атрымалася лепшай, патрэбная **сістэма**, якая што найлепей спалучыць эканоміку з тэхналогіяй.

Старая сістэма ўжо гэтую функцыю не выконвае. Новую нам скора прапануюць кандыдаты на прэзідэнта. Адзін з іх, напэўна, будзе ад ВПК. ■

**Из интервью А.Г. Лукашенко журналу «Военный парад» № 30, 1998.**

*Свыше ста белорусских предприятий поставляли продукцию для комплектации боевых кораблей ВМФ. Беларусь совместно с Украиной была задействована в производстве уникального, не имеющего и по сей день аналогов в мире, зенитно-ракетного комплекса С-300, белорусские колесные и гусеничные шасси использовались в выпуске образцов вооружения и техники для всех видов Вооруженных Сил СССР.*

*— С момента провозглашения государственных суверенитетов военное сотрудничество между Россией и Беларусью никогда не прекращалось.*

*— Сделаны значительные практические шаги: утверждена Концепция совместной оборонной политики Беларуси и России, подписаны Договор о военном сотрудничестве и Соглашение о совместном обеспечении региональной безопасности в военной сфере.*

*— Нынешняя реальность такова, что российская промышленность автономно обеспечивает производство законченных образцов вооружения и военной техники на 17 процентов, а белорусская — на 1-3 процента. Таким образом, закрываясь в национальных квартирах, ВПК бывшего СССР может производить лишь около трети номенклатуры изделий от своих потенциальных возможностей.*

*— В Беларуси разработаны новые образцы военной автотехники, систем автоматизированного управления боевыми действиями, защиты вычислительных сетей, оптических приборов и многое другое.*


Фота IREX/ProMedia

**З артыкула ПОСЛЕДНИЙ РУБЕЖ, «Завтра» N48(261) 01.12.1998**

*К моменту развала Советского Союза ... военные объекты занимали около 10 процентов территории (по сравнению с 2 процентами для Советского Союза в целом), на которых было развернуто примерно 5 процентов всех Вооруженных Сил страны. У нас имелось свыше тысячи тактических ядерных зарядов. Согласно Меморандуму о договоренности к договору СНВ-1 на сентябрь 1990 года в Беларуси было развернуто еще и 54 МБР СС-25. Впоследствии там развернули еще 27 таких ракет... ,около Барановичей, действовала и действует поныне РЛС с фазированной решеткой, являющейся важнейшей частью советской системы предупреждения о ракетном нападении (СПРН). Подобных вилейской станции во всем мире не более двух десятков. В бывшем СССР их было пять. Одна была вывезена из побежденной Германии. Вилейский объект среди них — самый мощный и надежный. Его антенное поле расположено на территории в 600 с лишним гектаров. Здесь расположены десятки мачт высотой почти в 300 метров и весом в 300 тонн. Чтобы установить такую мачту, надо было вырыть в болоте котлован с пятиэтажный дом и заполнить его бетоном. Многоэтажные подземные бункеры снабжены сложнейшей аппаратурой, позволяющей подводным лодкам и кораблям принимать сигналы станции практически в любой точке мирового океана. Обслуживают станцию около 400 человек.*

**Рэдакцыя паведамляе сваім падпісчыкам, што аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка» можна да 1 сакавіка 2001 года.**

Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

*Рэдакцыя газеты прыносіць прабачэнні ААБ «Беларусбанка» за недакладнае пазначэнне банкаўскай паслугі.*

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

**Форма № ПД-5**

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня
Плательщик Всего

Кассир

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

**КВИТАНЦИЯ**

Пеня
Плательщик Всего

Кассир

ТЭНДЭНЦЫІ

# «Мода на свабодныя эканамічныя зоны прайшла»

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

Цяперашнім часам афшоры і свабодныя эканамічныя зоны разглядаюцца ў свеце як законныя, але несумленныя формы прыцягнення інвестыцыяў, як своеасаблівая форма нядобрасумленнай канкурэнцыі, сцвярджае прэзідэнт Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў Уладзімір Карагін. Таму некаторыя краіны зараз згортваюць СЭЗ і ўводзяць забарону на ўвоз на сваю тэрыторыю тавараў, выробленых у свабодных эканамічных зонах. Падобныя санкцыі пачалі ўводзіцца прыкладна два гады таму, а першыя рэкамендацыі так рабіць з'явіліся каля пяці гадоў таму. З гэтай праблемай, паведаміў лідэр сталічнага саюза прадпрымальнікаў, цяпер сутыкнулася Польшча, якая рыхтуецца стаць членам Еўрапейскага Саюза: ЕС рэкамендуе ёй згортваць дзейнасць сваіх СЭЗ.

Што тычыцца свабодных эканамічных зонаў на тэрыторыі Беларусі, то яны з'явіліся ў той час, калі ў свеце ўжо назіраўся спад актыўнасці па стварэнні СЭЗ. Па словах У.Карагіна, тут, як і ў некаторых іншых эканамічных пытаннях, рэспубліка адстала ад сусветных працэсаў па шэрагу аб'ектыўных прычынаў: больш доўгая распрацоўка заканадаўства, якое рэгламентуе дзейнасць СЭЗ, адсутнасць буйных дзяржаўных інвестыцыяў у свабодныя эканамічныя зоны і г.д. Пры гэтым ён прызнаў, што зараз у беларускіх СЭЗ, такіх, напрыклад, як мінская, віцебская або брэсцкая, створаныя значна лепшыя ўмовы для прыцягнення замежных інвестыцыяў, дзейнасці замежных інвестараў, ёсць значна большыя гарантыі для іх. Разам з тым У.Карагін зазначае, што аб'ектыўна «мода на свабодныя эканамічныя зоны прайшла» і ім засталося ўсяго некалькі гадоў эфектыўнай працы. ■

БелаПАН

# Супраць чэкавай прыватызацыі

Ірына САЗАНОВІЧ

Кіраўнікі прадпрыемстваў і аб'яднанняў прамыслоўцаў заклікаюць кіраўніцтва краіны адмовіцца ад бясплатнай чэкавай прыватызацыі з тым, каб у выніку акцыянавання суб'екты гаспадарання атрымлівалі рэальныя інвестыцыі.

Яны настойваюць на тым, што прыватызацыя павінна быць не самамэтай, а сродкам павышэння эфектыўнасці прадпрыемстваў і прыцягнення дадатковых інвестыцыяў. Сёння прадпрыемствы адчуваюць востры недахоп абаротных сродкаў і вымушаныя скарыстоўваць бартэр для «расшыўкі» плацяжоў, адзначыў першы намеснік старшыні БКПП. Калі ў 1999 годзе забяспечанасць беларускіх прадпрыемстваў уласнымі абаротнымі сродкамі складала 50 працэнтаў ад нарматыву, то ў 2000 годзе гэтая праблема толькі абвастрылася. Па прадпрыемствах міністэрства прамысловасці гэты паказчык знізіўся яшчэ на трэць. Зніжэнне ўласных абаротных сродкаў прывяло да павелічэння долі пазыковага капіталу. Вынікам гэтага стаў рост сабекошту прадукцыі і змяншэнне яе канкурэнтаздольнасці, а таксама зніжэнне прыбытку прадпрыемстваў і іх інвестыцыйнага патэнцыялу. Расце колькасць стратных прадпрыемстваў, што негатыўна адбіваецца на эканоміцы ў цэлым.

Кіраўнікі прадпрыемстваў лічаць, што чэкавая прыватызацыя не можа вырашыць гэтых праблемаў, і прапаноўваюць змяніць дзеючае заканадаўства па прыватызацыі. На іх думку, асноўным метадам рэфармавання дзяржпрадпрыемстваў павінна стаць іх акцыянаванне не шляхам продажу дзяржаўнай долі ў прадпрыемствах, а шляхам выпуску дадатковых пакетаў акцыяў для рэальнага ўлівання дадатковага капіталу ў асноўныя і абаротныя фонды прадпрыемстваў.

Пра рэакцыю міністэрства эканомікі на ўнесеныя прапановы прамыслоўцы спадзяюцца даведацца 15 лютага на паседжанні Савета БНПА, якое пройдзе з удзелам прадстаўнікоў гэтага міністэрства. ■

БелаПАН

